



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 лістапада 2015 года №47 **(1073)**




## У аварыі ў Маладзечне перакуліўся аўтамабіль

старонка 4

## Сукенка з кары і галінак дрэў: як маладзечанка перамагла ў конкурсе прыгажосці

старонка 14

## Футбольны сезон скончаны. Лепшым гульцом стаў Прохар Новікаў

старонка 22



# Душу беларуса паказваюць "Дажынкі"



– Дзе тут у вас "Дажынкі"? – пытаемся ў мінакоў, якія нясуць цяжкія пакеты. З сумак выглядвае кілбаса. У абрысах пакетаў можна пазнаць яблыкі, капусту, сыр...

старонкі 20-21

Фота Настассі РОЎДЫ.

● СВЕТ

## “Я плакаў, калі бачыў кадры з Парыжа”

МАЛАДЗЕЧНА

**З болем і суперажываннем адсочваў навіны пра тэрарыстычны акт у Францыі 13 лістапада наш зямляк і сябра рэдакцыі “РГ” Аляксандр Салагуб.**

У Францыі ў Аляксандра Салагуба шмат блізкіх і знаёмых, якім ён перадаў словы спачування і суперажывання.

– Я не мог спакойна глядзець відэакадры пра падзеі ў Парыжы. Моцна перажываю і спачуваю пацярпелым і ўсім французам, – сказаў ён.

У выніку тэрактаў у Парыжы загінулі 132 чалавекі, 352 параненыя.

Аляксандр Салагуб нарадзіўся ў 1935 годзе ў горадзе Алес (Францыя). Дзяцінства прайшло на поўдні Францыі. У 1947 годзе бацькі пераехалі ў Савецкі Саюз, у Данбас, дзе Аляксандр Салагуб працягваў справу бацькі – працаваў шахцёрам.

Пасля сям'я перабралася ў Маладзечна, бліжэй да радзімы продкаў – Вілейшчыны.

Ад 1964 года Аляксандр Салагуб жыве ў Маладзечне. Працаваў на станкабудаўнічым заводзе, супрацоўнічаў з мясцовымі газетамі. Захапіўся фатаграфіяй яшчэ ў дзяцінстве: у сям'і быў вялікі фотаархіў, і бацькі ўхвалялі яго папаўненне новымі здымкамі.

**Аддзел інфармацыі.**

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## Бардак на ўборачнай: збожжа прарасло на пяць сантыметраў

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю пастаянна кантралюе сельскагаспадарчыя арганізацыі рэгіёна.**

Вынік работы ў гэтым накірунку – істотная прыбаўка ўраджаю. Валавы збор збожжавых павялічыўся ў Мядзельскім раёне на 27%, у Вілейскім – на 22%, у Валожынскім – на 14%, у Маладзечанскім – на 10%.

Некаторыя арганізацыі непраўдзіва адлюстроўвалі ўборачную плошчу, няякасную ўборку і безгаспадарлівасць.

Прадпрыемства “Сугвазды-агра” Валожынскага раёна” сабрала збожжа на 480 тон больш за мінулы год. Але вырашылі прыхарашыць паказчык па ўраджайнасці, хаця па азімым жыце мелі 90,9 ц/га пры сярэдняй па раёне 40,5 ц/га. Пасля маніторынгу справаздачу прывялі ў парадак, з-за чаго ўраджайнасць збожжавых знізілася.

У таварыстве “Будслаўскае” Мядзельскага раёна на адкрытай пляцоўцы склалі 125 тон збожжа. З-за доўгага захоўвання пад адкрытым небам яно сапсавалася: з'явілася цвіль, месцамі прарасло да пяці сантыметраў.

У таварыстве “Валожынскі льнокамбінат” няякасна прыбралі 27% ільну-даўгунцу.

У таварыстве “Адамова-Агра” Валожынскага раёна пасеялі рапс без фосфарных угнаенняў. З-за недахопу паліва таварыства “Новая Вілія” Вілейскага раёна не дасеяла 70% азімага збожжа.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжрайкамітэта дзяржкантролю.**

● ЗДАРЭННІ

## Знайшлі рэшткі лася

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта паведаміў міліцыі 17 лістапада начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

Рэшткі заўважылі на тэрыторыі Старынкаўскага лясніцтва, распавёў “РГ” намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Андрэй Дударчык**.

Следча-аператыўная група, якая выехала на месца, высветліла, што лася забілі за два дні да гэтага, 15 лістапада. Рэшткі забралі. Узбудзілі крымінальную справу.

Хто вырашыў незаконна здабыць лася, пакуль невядома. Ідуць следчыя мерапрыемствы. Але калі злодзея затрымаюць, яму пагражае да шасці гадоў зняволення.

Шкода наваколлю ад такога палявання – 54 мільёны рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Наталлі ТУР.

Падчас адкрыцця выставы кітайскага мастака Моў Чэня. Ён каля мікрафона.

● ВЫСТАВЫ

# Мастак з Кітая абяцаў намаляваць Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Урачыстае адкрыццё выставы кітайскага мастака Моў Чэня адбылося ў Палацы культуры 18 лістапада.**

На выставу ў Маладзечне мастак адабраў шэсць сваіх палотнаў. На іх не толькі пейзажы Кітая, партрэты прыгожых маладых кітаянак, але і знаёмыя беларусам выявы касцёла Сымона і Алены ў Мінску, а таксама палатно, на якім можна пазнаць віцебскі Свята-Успенскі сабор.

Моў Чэнь расказаў “Рэгіянальнай газеце”, што Беларусь наведвае ўсяго другі раз. Але яго вельмі ўразілі беларуская прырода і архітэктура.

– У наступны раз я абавязкова напішу карціну з выявай Маладзечна.

Моў Чэнь піша свае работы на спецыяльнай бамбукавай паперы, якая ў Кітаі называецца санжэнь.

– Яна, – прызнаецца майстар, – дапамагае ствараць патрэбны настрой на карціне. Калі малюеш тушшу кароткія рысачкі на такой паперы, то можна зразумець і знешні, і ўнутраны настрой карціны.

На карціне, якую ў гэты час дэманструе майстар, намаляваная дзяўчына, у яе руках паднос, на якім кубачкі.

– Можна здагадацца, што яна некага чакае ў госці, чырвань заліла яе твар, яна ў прадчуванні сустрэчы.

– Чакае прынца на белым кані, – дадае ад сябе намеснік старшыні Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў **Ігар Бабак**, які выступіў у ролі перакладчыка.

**– Кітаянкі, намаляваныя на карцінах, – рэальна існуючыя жанчыны ці ваша выдумка?**

– Усе яны сапраўдныя. Я ездзіў па вёсках, фатаграфаваў, запамінаў і потым маляваў.

**– Што азначаюць іерогліфы, якія прысутнічаюць на кожным вашым палатне?**

– Гэта апісанне мясцовасці, дзе была намаляваная карціна.

Моў Чэнь малюе ў тэхніцы шань шуй – традыцыйнага кітайскага пейзажа.

Ацаніць работы госця мы папрасілі маладзечанскага мастака **Міколу Аўчыннікава**, які таксама прысутнічаў на выставе:

– Я для сябе не ўбачыў нічога новага – гэта традыцыйны кітайскі жывапіс. Але, безумоўна, бачыць такія работы ў нас вельмі прыемна.

Мікола Аўчыннікаў прызнаецца, што работы Моў Чэня пабачыў упершыню.

– Вось што цікава, Моў Чэнь малюе Мінск, а дрэвы ў яго на карцінах усё адно атрымоўваюцца кітайскімі.

На пытанне, у чым мастак бачыць асаблівасці кітайскага жывапісу: у руцэ майстра ці ў матэрыяле, з якім мастак працуе, Мікола Аўчыннікаў адказаў:

– Я шмат працую ў акварэлі, яна нечым падобная да тых прац, якія мы сёння пабачылі, аднак наша папера такога эфекту не дае. Бамбукавая папера жыве разам з тушшу, дыхае ў ёй, расцякаецца.

Напрыканцы сустрэчы гасцей з Кітая чакаў сюрпрыз: салістка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра **Ганна Бяляева** выканала для ўсіх прысутных гімн Кітая, а таксама вядомую песню “Падмаскоўныя вечары” на кітайскай мове.

**Рыгор Сарока**, які таксама прыехаў павітаць дэлегацыю, не ўтрымаўся і пачаў дырыжыраваць усімі прысутнымі.

І фінальнай кропкай мерапрыемства стала песня, выкананая і пакітайску, і па-беларуску: “Если б знали вы, как мне дороги, белорусские и молодечненские вечера!”.

**Наталля ТУР.**



Фота выкарыстана як ілюстрацыя. Фота kazakh-zerno.kz

Работнік сельгаспрадпрыемства спакусіўся на пяць тон збожжа.

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Галоўнага інжынера затрымалі за крадзеж пяці тон збожжа

АШМЯНЫ

**Фінансавая міліцыя затрымала выканальніка абавязкаў галоўнага інжынера сельскагаспадарчага прадпрыемства, які падазраецца ў крадзяжы пяці тон збожжа.**

Пра гэта паведамляе Камітэт дзяржкантролю.

Супрацоўнікі Смаргонскага міжрайаддзела фінрасследаванняў затрымалі 32-гадовага выканальніка абавязкаў галоўнага інжынера сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва Ашмянскага раёна. Яго падазраюць у крадзяжы пшаніцы.

Як высветлілі аператыўнікі, ён разам з чатырма жыхарамі раёна тройчы заходзіў у зернесушыльны комплекс, адкуль і вынес збожжа. Вывез скрадзенае на грузавой машыне аднаго з падзельнікаў. Пазней высветлілі, што гэта пшаніца не была апрыходаваная па бухгалтарскім уліку прадпрыемства.

У адносінах да в. а. галоўнага інжынера і чатырох яго падзельнікаў узбудзілі крымінальную справу за крадзеж праз злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

Санкцыі адпаведнага артыкула Крымінальнага кодэкса прадугледжваюць пазбаўленне свабоды да пяці год.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАШЫ ГРОШЫ

# Зноў пачалі затрымліваць выплату заробкаў

**У лістападзе на Мядзельшчыне і Валожыншчыне 13 прадпрыемстваў не выплацілі своечасова заробкі. Месяц таму ў рэгіёне былі выплачаныя ўсе.**

У лістападаўскім спісе, апублікаваным Белстатам, у даўжніках 5 мядзельскіх і 8 валожынскіх прадпрыемстваў.

Заводы Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Астравецкага і Ашмянскага раёнаў пакуль выплачваюць работнікам заробкі своечасова.

Сёлета цягам васьмі месяцаў, ад лютага да верасня, у рэгіёне ад 20 да амаль 80 прадпрыемстваў мелі нявыплаты па заробках.

Цягам верасня, напярэдадні выбараў, упершыню ўсю запазычанасць выплацілі. У лістападзе нявыплаты вярнуліся.

**Спіс прадпрыемстваў, якія не выплацілі своечасова работнікам заробкі:**

**Мядзельскі раён:**
ААТ "Свір-Агра",
ААТ "Мядзелагрaсэрвіс"
ААТ "Зані"
ААТ "Слабадская зара"
ААТ "Пруднікі-Агра"
КСУП "Сівіца"
ААТ "Суднікоўскі"

**Валожынскі раён:**
ААТ "Агра-Вішнеўскі",
КСУП "Падбярэззе"
ААТ "Лоск"
КСУП "Сакаўшчына-Агра"
ТАА "Адамова-Агра"
КСУП "Манькаўшчына-2014".

**Усяго 111 прадпрыемстваў-даўжнікоў**

Тым часам агулам у краіне арганізацый-даўжнікоў 111. Сума агульнай запазычанасці – 52,4 мільярда рублёў.

**Месяц таму было 13 прадпрыемстваў з нявыплатамі работнікам.**

Гэта ў восем з паловай разоў менш. Сума запазычанасці была прыкладна ў два разы меншая – 27,9 мільярда рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**



Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.



ЛІЧБА НУМАРА

**10,4** літра чыстага спірту – столькі ў сярэднім ужыў кожны беларус у 2014 годзе

Раней гэта лічба перавышала 13 літраў на кожнага

Паводле Белстата

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.11 | 19.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 648,00 | **17 915,00** |
| Еўра | 18 958,00 | **19 084,00** |
| Злоты | 4 488,29 | **4 495,18** |
| Расійскі рубель | 273,28 | **276,20** |
| Грыўня | 773,26 | **748,79** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | **18.11** |
| Еўра | 18850/19020 | **18950/19150** |
| Долар ЗША | 17600/17700 | **17830/18000** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.11 | 18.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **54 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **29 400** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | **75 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **40 000** |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | **54 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 125 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **43 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **6 000** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **46 000** |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | **3 800** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **4 800** |
| Баклажаны, 1 кг | 39 000 | **42 000** |
| Лімоны, 1 кг | 34 500 | **28 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | **30 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **25 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 34 500 | **29 000** |
| Ківі, 1 кг | 25 000 | **38 000** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5 000** |
| Памідоры, 1 кг | 19 900 | **12 000** |
| Агуркі, 1 кг | 32 500 | **25 000** |
| Перац, 1 кг | 47 000 | **29 900** |
| Вінаград, 1 кг | 24 900 | **24 500** |
| Бананы, 1 кг | 17 900 | **16 500** |
| Хурма, 1 кг | 29 000 | **25 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | - | **50 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | **12 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | **24 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | **3 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Душыцеля таксіста прыгаварылі да трох год узмоцненага рэжыму

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У законную сілу ўступіў прыгавор па справе нападу на кіроўцу таксі.**

Здарэнне адбылося ў чэрвені. 37-гадовы мужчына п'яны сядзеў на пасажырскім сядзенні. Ён накінуў свой рамень на шыю таксіста і пачаў яго душыць.

Нападнік нанёс лёгкія цялесныя пашкоджанні.

На судзе абвінавачаны прызнаў віну цалкам.

Суд Маладзечанскага раёна асудзіў мужчыну па артыкуле за асабліва злоснае хуліганства. Яму прызначылі пакаранне – пазбаўленне свабоды на тры гады ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пацярпеламу ён таксама кампенсаваў маральную шкоду ў памеры 15 мільёнаў рублёў.

**Сяргей КАЎРЫГА, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, старшы саветнік юстыцыі.**

● КРЫМІНАЛ

## Абакралі 84-гадовую віляйчанку

**ВІЛЕЙКА**

**У міліцыю даявілося звярнуцца 84-гадовай жыхарцы Вілейцы.**

Яна паведаміла, што ўдзень 10 лістапада нехта адкрыў замок і пракраўся ў яе дом. Адтуль скраў чатыры мільёны рублёў, куртку і кашалёк.

Жанчына зачыніла дзверы на навясны замок, а ключ застаўся ў замку, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Адсутнічала жанчына нядоўга, але злодзей паспеў скарыстацца гэтым.

Узбудзілі крымінальную справу па факце крадзяжу з пранікненнем у жыллё.

**Аддзел інфармацыі.**

## У "Еўраопце" ў Мядзеле скралі кашалёк

**МЯДЗЕЛ**

**Адбылося гэта 11 лістапада ад 15 да 21 гадзіны.**

Супрацоўніца крамы паведаміла ў міліцыю, што нехта з яе незачыненага службовага кабінета скраў кашалёк. Там было 500 тысяч рублёў і 100 еўра.

Кашалёк быў у сумачцы, што знаходзілася ў шафе. Кабінет не зачыняецца, туды па службовых справах пастаянна заходзяць людзі, распавёў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

Тых, хто што-небудзь ведае пра здарэнне, просяць паведаміць у райаддзел РАСК па нумары **8-01797-55-1-56** ці ў міліцыю – **102**. Ананімнасць гарантуецца.

**Аддзел інфармацыі.**

## На возеры Мястра налавілі рыбы на 22 мільёны

**МЯДЗЕЛ**

**Супрацоўнікі аддзялення апаратыўнага рэагавання Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету на возеры Мястра, каля вёскі Качаргі, затрымалі двух мясцовых жыхароў.**

Адбылося гэта ўвечары 9 лістапада.

Мужчыны з дапамогай дзвюх сетак злавілі 33 плоткі, 24 ляшчы і іншую рыбу.

Прычынілі яны шкоду на суму 22 мільёны 500 тысяч рублёў. У іх забралі сеткі і лодку.

Узбудзілі крымінальную справу па факце незаконнай здабычы рыбы. Мужчыны ўжо кампенсавалі шкоду, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# У Маладзечне перакуліўся аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Аварыя адбылася ў панядзелак, 16 лістапада, каля 14 гадзін.**

Падрабязнасці распавядае дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Кіроўца "Шкоды-Румсцер", 63-гадовы маладзечанец, ехаў па Касманаўтаў у бок вуліцы Магістральнай.

На ўчастку дарогі з закругленнем управа ён не ўлічыў дарожную разметку і выехаў на паласу сустрэчнага руху. Па ёй ехаў "Мерседэс", якім кіраваў 28-гадовы маладзечанец.

Адбылося бакавое сутыкненне, і "Шкода" перакулілася. Кіроўца аўтамабіля па медыцынскую дапамогу не звярнуўся. А пасажырку, яго жонку, медыкі хутка адпусцілі дамоў.

За стварэнне аварыйнай абстаноўкі на кіроўцу "Шкоды" склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Кіроўца "Мерседэса" быў вымушаны экстранна тармазіць, каб пазбегнуць сутыкнення.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Аляксандра КАЗЛОВА.

Аварыя здарылася на вуліцы Касманаўтаў у Маладзечне. Ад удару машыну перакуліла на дах.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Парушальнік мяжы накіроўваўся ў Бельгію па лепшае жыццё

**АСТРАВЕЦ**

**11 лістапада на ўчастку пагранічнай заставы "Лоша" ў 600 метрах ад Дзяржаўнай мяжы памежны нарад затрымаў парушальніка.**

Парушальнік мяжы быў без дакументаў. Ён пешшу спрабаваў перайсці мяжу з Рэспублікі Беларусь у Літоўскую Рэспубліку.

Са слоў затрыманага, ён накіроўваўся ў Бельгію па лепшыя ўмовы жыцця.

Мужчыну затрымалі як парушальніка пагранічнага заканадаўства да 72-х гадзін.

Яго даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання Смаргонскай пагранічнай групы для далейшага разгляду.

За наўмыснае незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, калі гэта дзеянне не цягне крымінальнай адказнасці, а таксама замах на такое перасячэнне, чакае папярэджанне з дэпартацыяй альбо накладаецца штраф у памеры ад дзесяці да ста базавых велічынь з дэпартацыяй або без дэпартацыі.

**Паводле Смаргонскай пагранічнай групы.**



● ЗДАРЭННІ

## Каб не плаціць аліменты на дачку, маладзечанец з'ехаў у Расію

**МАЛАДЗЕЧНА**

**За дзевяць месяцаў 2015 года ў параўнанні з мінулым годам павялічылася колькасць крымінальных спраў аб ухіленні выплаты аліментаў.**

Яна вырасла на 833 выпадкі – з 4639 да 5472.

Кожны пяты выпадак – у адносінах да жыхара Мінскай вобласці.

Жыхар Маладзечна паводле судовага загада павінны быў выплачваць былой жонцы на ўтрыманне непаўнолетняй дачкі грошы. Але на працягу двух гадоў (2013 і 2014) ён іх не пералічваў, выехаў у Расію і вяртацца ў Беларусь не збіраўся.

Пракуратура Мінскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да даўжніка. Падчас расследавання мужчыну знайшлі ў Расіі. Яго ўзялі пад варту.

Знаходжанне асобы, якая павінна выплачваць аліменты, за межамі краіны не вызваляе ад крымінальнай адказнасці.

**Паводле БелаПАН.**



Фота забяспечана Русланам ХІЛЬКЕВІЧАМ.

Выхаванцы ясляў-садка №6 у Ашмянах ідуць на экскурсію ў Ашмянскія электрасеткі.

ЭКАЛОГІЯ

# Выхаванцы садка распытвалі пра ток

АШМЯНЫ

**Сёлета "хуткая энергетычная дапамога" прыехала на пілотны аб'ект праекта "Энергаэфектыўнасць у школах"– яслі-садок №6 у Ашмянах. І прывезла з сабой камплект энергазберагальных лямпачак.**

11 лістапада праект "Энергаэфектыўнасць у школах", які фінансуе ЕС, адзначыў Міжнародны дзень энергазберажэння.

Гасцей, арганізатараў праекта, сустракалі выхаванцы садка і загадчыца **Марына Мельнікава.**

Яны расказалі, што мерапрыемства назвалі так: "Вось яно магічнае – сонца электрычнае".

Госці разам з выхаванцамі пайшлі на экскурсію ў электрасеткі. З гэтай арганізацыяй у адміністрацыі садка склаліся партнёрскія адносіны, і экскурсіі тут ладзяць рэгулярна.

Хлопчыкам і дзяўчынкам распавялі пра тое, што такое электрычнасць, ток, як ён трапляе ў нашы дамы, чаму загараецца электрычная лямпачка. Чаму важна эканоміць электраэнергію і як бяспечна паводзіць сябе ў адносінах да ўсяго, што звязанае з электрычнасцю.

Пасля экскурсіі ўдзельнікі вярнуліся ў садок. Там работнікі электрасетак пачалі ўкручваць энергазберагальныя лямпачкі ў спальных памяшканнях.

**Замяніўшы лямпачкі напальвання на энергаэфектыўныя люмінісцэнтныя з такім жа цокалем, знізіцца энергаспажыванне як мінімум у пяць разоў.**

Тэрмін акупнасці такой замены – паўгода.

Юныя выхаванцы падзякавалі Ашмянскім электрасеткам за дапамогу ў акцыі "Вось яно магічнае – сонца электрычнае" вясёлым канцэртам. Яны падрыхтавалі тэматычныя прыпеўкі, тэатральную пастаноўку, запальныя танцы і інтэрактыўны перфоманс з гледачамі.

Напрыканцы супрацоўнікі праекта "Энергаэфектыўнасць у школах" паказалі новы ролік пра прыгоды "хуткай энергетычнай дапамогі", а маленькія артысты атрымалі новы выпуск размалёўкі па матывах мульцяка.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРСЫ

## Разгадай паштоўку "РГ" – і атрымай прыз

**Пераможца атрымае фота ад карэспандэнткі "РГ" Настассі Роўды і камплект паштовак.**

Зусім нядаўна ў "РГ" з'явіліся фірменныя паштоўкі. Малюнак зроблены ў тэхніцы выцінанкі. Ці здагадваецеся вы, што мела на ўвазе мастачка **Алеся Птушка**, ілюструючы кожны з раёнаў нашага рэгіёна?

Разгадайце паштоўку і атрымайце сваё партрэтнае фота ад нашага фатографа Настассі Роўды! А таксама – камплект з дзесяці разгаданых вамі паштовак.

Напішыце, што, на вашу думку, ілюструе малюнак да кожнага з раёнаў "Адной зямлі": Вілейскі, Маладзечанскі, Валожынскі, Мядзельскі, Астравецкі, Ашмянскі і Смаргонскі. Дашліце адказ на пошту выдання **regionnews@rh.by** ці на адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**

Імя таго, хто будзе бліжэй за ўсіх да праўды, мы назавём у аўторак, 24 лістапада.

Настасся Роўда – журналіст, чыё майстэрства ў галіне відэа і фатаграфіі дынамічна развіваецца. Сёлета ўдзельнічала ў адукацыйным курсе па стварэнні фотагісторый "Лаві момант", вынікам якога стала выстава ў Мінску і выхад альбома з працамі.

**Аддзел інфармацыі.**




МАХЛЯРСТВА

## Пад выглядам міліцыі праз інтэрнэт крадуць грошы

**Пачасціліся выпадкі, калі злачынцы нібыта блакуюць камп'ютары і ноўтбукі за прагляд "забароненых" сайтаў.**

Пацярпелымі сталі карыстальнікі пасля наведвання сацыяльных сетак "Аднакласнікі" і "Укантакце", а таксама пасля сайтаў з эратычным зместам. На камп'ютары і ноўтбукі пачалі прыходзіць паведамленні пра тое, нібыта тэхніку заблакавалі за прагляд і капіраванне інфармацыі з "забароненых" сайтаў.

У тэксце паведамлення ёсць наступнае: "МУС РБ заўважыла выкарыстанне вашага камп'ютара з супрацьпраўнай мэтай – прагляд і капіраванне матэрыялаў, якія ўтрымліваюць элементы педафіліі, гвалту і гей-порна. Такія дзеянні ўтрымліваюць склад адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага арт. 14.5 КоАП і цягнуць штраф ад 100 да 400 тысяч рублёў. У выпадку нявыплаты прадугледжаная крымінальная адказнасць".

Далей карыстальніку пішуць, што на яго накладзены штраф у памеры 350 тысяч рублёў. І тлумачаць, як пералічыць штраф на электронны кашалёк. Пасля аплаты штрафу "парушальнік" на квітку бычцам атрымае код, які трэба ўвесці ў поле паведамлення. Пасля гэтага камп'ютарам можна зноў карыстацца.

Для запалохвання махляры пішуць: "У выпадку нявыплаты штрафу ці пры спробе пераўстанавіць аперацыйную сістэму матэрыялы будуць перададзеныя ў пракуратуру для прыняцця рашэння аб узбуджэнні крымінальнай справы. А ўсе дадзеныя на камп'ютары, у тым ліку BIOS, будуць знішчаныя".

Хаця такая махлярская схема не новая, яна працягвае працаваць. У паведамленні спасылаюцца на парушэнне, прадугледжанае неіснуючым артыкулам Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Электронны кашалёк, на які патрабуюць пералічыць штраф, зарэгістраваны на грамадзяніна іншай краіны.

Маладзечанскі РАУС нагадвае, што такія паведамленні не маюць ніякіх адносін да праваахоўнай дзейнасці. Дзяржаўныя органы не маюць падобных паўнамоцтваў. А аўтары паведамлення падманваюць і нажываюцца.

**Карыстальнікам міліцыя раіць не пераходзіць на падазроныя спасылкі. Ні ў якім выпадку не варта пералічваць грошы на невядомыя рахункі.**

IT-спецыялісты высветлілі, што ўвесці код, які разблакаваў бы камп'ютар ад вымагальніка, немагчыма: яго проста няма. Таму любы перавод грошай удвая бессэнсоўны.

**Для разблакіроўкі звычайна дастаткова проста перазагрузіць камп'ютар.**

Рэкамендуем рэгулярна абнаўляць праграмнае забеспячэнне. Уключыце функцыю аўтаматычнага абнаўлення праграмнага забеспячэння, калі такое даступна. Варта рэгулярна абнаўляць надбудовы браўзераў – Adobe Flash Player, Sun Java, Adobe Reader, базы і модулі антывірусных праграм і саму аперацыйную сістэму Microsoft Windows.

Калі вы самі не зможаце выдаліць злачынную праграму, звярніцеся да спецыялістаў па праграмным забеспячэнні.

**Юры КАБАКОЎ,**
**першы намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.**

АФІЦЫЙНА

## Змяняюцца межы некаторых вёсак у чатырох сельсаветах

ВІЛЕЙКА

Адпаведнае рашэнне прыняў Вілейскі раённы савет дэпутатаў.

Змяняюцца межы некаторых сельскіх населеных пунктаў Любанскага, Куранецкага, Людвіноўскага і Вязынскага сельсаветаў Вілейскага раёна.

Датычаць гэтыя змены вёсак Цынцавічы, Куранец, Гарыдавічы, Сцешыцы, Бакунькі, Селішча і Лоеўшчына.

**Паводле pravo.by**



Фота vk.com.

Рагнед Малахоўскі.



Фота vk.com.

Аксана Ярашонак.

● СУСТРЭЧЫ

## Навучэнцы музкаледжа стварылі песні на вершы Аксаны Ярашонак і Рагнеда Малахоўскага

МАЛАДЗЕЧНА

**Літаратурная сустрэча з сучаснымі беларускімі паэтамі адбылася ў Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы імя Агінскага 11 лістапада.**

У горад сонца завіталі нашы землякі **Аксана Ярашонак** і **Рагнед Малахоўскі**. Маладыя паэты былі вельмі адкрытыя, чыталі свае творы, адказвалі на пытанні. Аксана Ярашонак пачала з вершаў, прысвечаных роднаму гораду на літару "М".

– Сустрэча з Маладзечнам – кожны раз свята. Прыемна, што наш горад будзе ў наступным годзе культурнай сталіцай. Лічу, што ён дастойны і гэтага і таго, каб яму прысвячалі вершы, – адзначыла паэтка.

Са шчымлівасцю ў сэрцы Аксана ўспамінае студэнцкія гады, родны філфак педагагічнага ўніверсітэта, асабліва плошчу Якуба Коласа, дзе так добра "пішуцца вершы пад грукат трамваяў...".

Пісаць іх дзяўчынка пачала яшчэ ў 3 класе. Успамінае, што адзін з першых вершаў быў пра белага палярнага мядзведзя. Цяпер на незвычайныя вобразы яе натхняюць дзве дачкі, якія часам дапамагаюць заўважыць тое, што не бачна дарослым. Напрыклад, лёгкія аблокі здаюцца паэтцы цукровай ватай, а сонца яна параўноўвае з гарачай карамеллю.

Цяпер Аксана жыве ў вёсцы Ілья Вілейскага раёна, працуе педагогам-арганізатарам у школе, таму шмат яе твораў звязана з прыгажосцю беларускай прыроды. Для яе адна з найважнейшых тэм – шчаслівае каханне. Нават першая кніжка мае назву "Звычайнае шчасце". Зборнік уваходзіць у бясплатную серыю "Маладая паэзія Беларусі".

### Закахаўся ў дзяўчыну з Вялікага Гасцінца

Аксана прыехала на сустрэчу з сябрам і аднадумцам, членам Беларускага саюза пісьменнікаў і журналістаў, лаўрэатам Мінскай абласной прэміі ў галіне літаратуры ў намінацыі "Паэзія" Рагнедам Малахоўскім. Многія лічаць, што Рагнед – творчы псеўданім. Аднак гэта яго сапраўднае імя: бацькі чакалі дзяўчынку, якую хацелі назваць у гонар знакамітай беларускай княжны.

Адзіны ў свеце хлопчык з такім імем скончыў Нарачанскую сярэднюю школу. Але з нашым горадам Рагнеда звязвае свая гісторыя:

– У Маладзечне жыве маё першае каханне, на Вялікім Гасцінцы. Ці ёсць хто-небудзь з гэтай вуліцы? – жартаўліва запытаўся малады чалавек у дзяўчынак-навучэнак.

Дзякуючы гэтаму пачуццю, у 10 класе юнак пачаў пісаць вершы. Каханне ўжо мінула, але пад яго ўплывам малады паэт працягвае пісаць. У кожным вершы Рагнеда ёсць думка, якая абавязкова пакідае след у памяці. Сам паэт любіць творчасць **Уладзіміра Дубоўкі**, **Максіма Танка**, рускую паэзію "сярэбранага стагоддзя".

Яшчэ адно захапленне Рагнеда – фатаграфія. "Здымаю ў асноўным прыроду і дзяўчат", – усміхнуўся малады чалавек. У Мінску адбылися ўжо 12 яго выстаў, а ў хуткім часе плануецца выпуск кнігі.

Навучэнцы каледжа аздобілі сустрэчу пранікнёнымі музычнымі нумарамі. Кожнаму з гасцей яны падрыхтавалі асабістыя падарунак-сюрпрыз – песні на іх творы. Вершы на музыку паклалі навучэнкі другога другога курса **Варвара Калініна**, **Марыя Нахай** і **Вікторыя Мішына**.

Сустрэча адбылася дзякуючы выкладчыцам музычнага каледжа **Іне Русак** і **Алене Бірuковай**.

**Яна УРУБЛЕЎСКАЯ,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Творчая маладзечанка Святлана Капуцкая разам з мужам Мікалаем.

● ЗАХАПЛЕННІ

## "Я была кандытаркай і раптам стала паэткай"

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля выхаду на пенсію маладзечанка Святлана Капуцкая пачала жыццё па-новаму. Паездкі, канцэрты, літаратурныя вечарыны і нават заняткі ў басейне цяпер не па святах і выхадных, а ў простыя будні.**

Жыве жанчына з мужам **Мікалаем Пятровічам** у вялікім прыватным доме ў Маладзечне, дзе мы і сустрэліся. У гасцях у гэты час былі і іх пяцігадовы ўнук **Руслан**. Яго пакуль не вельмі цікавіць паэзія, а больш займаюць машынкі. Толькі час ад часу ён падыходзіў да бабулі і тузаў за рукаў блузкі.

– Пісаць вершы пачала два гады таму, у 59 гадоў, – прыгадвае Святлана Васільеўна. – Раней ніколі гэтым не займалася. Памятаю, паехалі тады за Самалі ў грыбы, там жылі мае бабуля і дзядуля. Пахадзілі, заехалі ў вёску. Наша хата стаіць старэнькая, сад зарос, трава па калена. Я думала пра бацькоў, мне хацелася іх бачыць. Быццам з імі размаўляла, чакала, што мяне нехта сустрэне. І напісала свой першы верш.

Спадарыня Святлана праз усю нашу размову чытае вершы. Памятае іх на памяць. Вось пачатак таго, першага:

*"Не часта я ўжо*
*тут бываю,*
*Але з падзякай*
*ўспамінаю.*
*Хоць столькі год*
*ужо прайшло,*
*А мне ў сэрцы*
*залягло"...*

Святлана Васільеўна бярэ ў рукі ноты. На яе словы напісаў музыку беларускі кампазітар **Леанід Шурман**. Цяпер тры вершы сталі песнямі: "Я прыйду да цябе", "Доля" і "Госці ў хаце". Спадарыня Святлана робіць рэмарку, што апошняя – святочная, як "Чарка на пасашок".

– Маёй матулі няма ўжо 23 гады. Аднойчы іду да хаты, дзе яна жыла. Тут, у нас, на Велікасельскай, дзе цяпер жыве мой старэйшы сын. Ён хату перабудаваў, зрабіў катэдж. А я бачу тут ранейшую сялібу, дзе жыла мая матуля, дзе прайшло маё дзяцінства. Вось і напісала матулі верш, – распавядае Святлана Васільеўна. – Пра што цяпер пішу? Пра бацькаўшчыну, пра дзяцей, пра каханне. Чакала неяк свайго Мікалая Пятровіча на абед. Надвор'е было такое: ад раніцы яшчэ зіма, а ў абед – вясна. На стол накрыла, Міколы яшчэ не было, зірнула ў акно, і тут імгненна прыйшоў верш. Калі Мікола зайшоў, сказала яму: "Дарагі, я табе верш напісала".

Гэтая пара разам ужо 42 гады. Маюць двух сыноў, у якіх ужо даўно свае сем'і.

– Падтрымліваю жонку, – кажа спадар Мікалай. – Ездзім разам і на перадачы на радыё, і на канцэрты.

Канцэртаў у Святланы Васільеўны ездзі – не хачу! Ужо сем гадоў як яна спявае ў калектыве "Адпачынак", што ў Палацы культуры, і пяць – у адным з найстарэйшых калектываў на Маладзечаншчыне "Крынічанька". Ён існуе ўжо 43 гады.

Чатыры месяцы таму спадарыня Святлана далучылася і да літаратурнага аб'яднання "Агмень".

**– Мае вершы простыя. Я не лезу ў слоўнікі, каб падглядзець словы. Ні ў адзін! Каб я ўзяла які і пачала шукаць там патрэбныя словы, магло б і не атрымацца нічога. Ёсць паэты, якія пішуць мудрагелістыя, філасофскія вершы. А ў мяне даступныя, людзям гэта падабаецца, – кажа спадарыня Святлана.**

– Калі пачала пісаць вершы, зразумела, што патрэбная. Неаднойчы, калі я чытала іх, людзі пачыналі плакаць. Я пішу пра блізкае. У кожнага з нас ёсць бацькі, у кожнага – свой куточак. Я даношу ўсё гэта.

Святлана Васільеўна пасля таго, як скончыла ў Маладзечне політэхнічны тэхнікум, працавала кандытарам у рэстаранах "Папараць-кветка", "Нарач", "Стары замак". Выпякала торты, піражныя. Адпрацавала трыццаць год і перайшла ў вытворчую вучэльню. Была майстрам вытворчага навучання.

– Жанчыны, з якімі працавала ў грамадскім харчаванні, калі слухалі мае вершы, дзівіліся, якая прыгожая беларуская мова, – кажа спадарыня Святлана, якая піша пераважна па-беларуску. – Усім цікава: як гэта так? Торты афармляла, булкі пякла, караваі. І раптам стала паэткай. Год таму патэлефанавала сваёй цётцы і сказала, што стала пісаць вершы, але сама не ведаю, як атрымліваецца. А яна кажа: "Што ты, Света, так хвалюешся? Твой дзед, Пятро, як пайшоў на пенсію, таксама пачаў пісаць".

Святлана Васільеўна дзеліцца, што часам вершы пішуцца ноччу. Тады яна бярэ мабільны і запісвае думкі, а раніцай чытае мужу.

**Настасся РОЎДА.**

НАВІНЫ

## “Шынок Сцяпана” перамог “Чайхану Дархана”

ВІЛЕЙКА

У Вілейскім дзяржаўным каледжы 12 лістапада прайшло “Дранік-Шоу-2015”. Чэмпіянат па хуткасным гатаванні і паяданні дранікаў адбыўся ў сёмы раз.

Як звычайна, сапернічалі дзве каманды: “Чайхана Дархана” (**Аляксей Шырочын, Валерыя Сарока, Алеся Апяцёнак**) і “Шынок Сцяпана” (**Павел Станкевіч, Анастасія Лукашонак, Анастасія Альфер**).

Каманды паказалі мініяцюру-прывітанне. Потым у гатаванні дранікаў прадэманстравалі веды, уменні і хуткасць. У выніку з невялікім адрывам перамагла каманда “Шынок Сцяпана”. Пра ўсё гэта расказала культарганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**.

Аддзел інфармацыі.

## Еўрасаюз выдзеліць больш за 1,5 мільёна еўра на развіццё турызму ў Беларусі

МЯДЗЕЛ

Турыстычнай грамадскасці прадставілі праграму ЕС “Падтрымка ўстойлівага развіцця турызму ў Беларусі”.

Мяркуецца, што самымі ўстойлівымі ў галіне турызму стануць чатыры пілотныя тэрыторыі. Гэта Полацкі раён і горад Полацк, тэрыторыя ўздоўж дарогі, якая акружае Белавежскую пушчу, у тым ліку Камянецкі і Пружанскі раёны, Мсціслаўскі раён і горад Мсціслаў і Мядзельскі раён і горад Мядзел.

**Бюджэт праекта – 1,6 мільёна еўра.**

Для гэтых рэгіёнаў праграмай прадугледжана стварэнне рабочых груп на месцах, аналіз стану турызму, распрацоўка стратэгій і планаў па ўстойлівым развіцці турызму, арганізацыя азнаямленчых паездак, навучанне, стварэнне брэндаў гэтых тэрыторый і рэкламных сайтаў.

Праект разлічаны на 30 месяцаў, і да лета павінны быць практычныя вынікі.

Пад імі арганізатары маюць на ўвазе павелічэнне колькасці турыстаў на пілотных тэрыторыях на 20%.

Паводле tio.by

УЗНАГАРОДЫ

# Сукенка з кары і галінак дрэў, макіяж з люстэркамі

## Як маладзечанка перамагла ў конкурсе “Стыль і прыгажосць”

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 5 да 8 лістапада ў Мінску праходзіў чэмпіянат Беларусі па цырульніцкім мастацтве, дэкаратыўнай касметыцы і нэйл-дызайне “Стыль і прыгажосць”.**



Фота забяспечана Святланай ПРАДУХАЙ.

Візажыст Святлана Прадуха стала абсалютным чэмпіёнам Беларусі па дэкаратыўнай касметыцы.

Да мерапрыемства жанчына рыхтавалася год – прыдумвала вобразы, удасканальвала сваё майстэрства візажыста.

### Стараліся разгледзець вынікі на тварах суддзяў

– Апошні тыдзень да конкурсу прыязджала дадому толькі паспаць, – усміхаецца пераможца. – Увесь дзень была на трэніроўках у Мінску. Але блізкія з разуменнем паставіліся да гэтага, падтрымлівалі, бо ведалі, што для мяне значыць конкурс.

Хвалявалася жанчына і на самім конкурсе, перажывала, каб хапіла часу скончыць вобраз. На работу давалі 90 хвілін, калі вобраз незакончаны, налічваліся штрафныя балы. Хваляванне прайшло пасля таго, як прыступіла да працы.

На конкурсе ўдзельнічалі дзесяць майстроў з розных гарадоў. Аднак ніхто з канкурсантаў не ведаў, адкуль майстры, якія работы прадстаўляюць, ім нават не дазвалялі размаўляць адзін з адным.

– Самы хвалюючы момант, калі са сцэны сыходзяць мадэлі і выходзіць журы, – расказвае Святлана. – Па твары кожнага з іх ты стараешся разгледзець, якія ж вынікі, рэакцыя на той альбо іншы вобраз. Аднак ні адна рысачка не выдавала вынікаў конкурсу.

### Мадэль падобная на прыгожае дрэва

Падчас конкурсу было тры намінацыі: “Фантазійны вобраз”, “Крэатыўны макіяж” і “Фотаработа”. Для першай намінацыі Святлана ўзяла вобраз з казак – багіні дрэў Дрыяды.

– Я дакладна ўяўляла, як будзе выглядаць мая мадэль: адзенне, прычоску, макіяж, – дзеліцца ўражаннямі Святлана. – У сукенцы выкарыстоўваліся галінкі дрэў, кара, ягадкі. Таму цяжкасці ўзніклі з касцюмам – складана было знайсці дызайнера, які б узяўся за маю незвычайную задуму, увасобіў яе ў жыццё. Дызайнерам стала жанчына з Брэста **Кацярына Пратасевіч**.

**Звычайна такія ўборы выкарыстоўваюць толькі для тэматычных фотасесій, паказаў. Мадэлі, Сафіі Калеснікавай, цяжка было хадзіць у ім, а сядзець увогуле немагчыма.**

Аднак яна справілася са сваёй задачай – выдатна прадэманстравала вобраз.

– Я ведала, як павінна выглядаць мадэль. Ёй трэба было быць падобнай на стройнае, прыгожае дрэва, мець высакародныя рысы твару, – расказвае пераможца. – Сафія Калеснікава як мага лепш падыходзіла для гэтага – высокая, зграбная дзяўчына, з высакароднымі рысамі.

На конкурсе няма асаблівых патрабаванняў да мадэлі, удзельнікі самі падбіраюць іх.

### Вобраз нестандартнай балерыны

Другая намінацыя ў конкурсе – “Крэатыўны макіяж”. У ёй Святлана паказала вобраз нестандартнай балерыны.

– Касцюм быў ручной работы, у аснове яго шкло, люстэркі, у макіяжы – элементы вітражоў, аксесуары таксама спецыяльна падбіралі з люстэрак, – адзначае Святлана. – **Марына Галачова**, адзін з трэнераў, якая рыхтавала мяне да конкурсу, сама спецыяліст па візажы і бутафорыі, таму яна прапаноўвала незвычайныя ідэі, якія мы стараліся ўвасобіць у жыццё. Таксама мне вельмі дапамаглі трэнер **Вікторыя Макейчык**, цырульніца **Наталля Ротманава**. Толькі плённая, зладжаная работа ўсёй каманды дапамаглі перамагчы ў конкурсе.

Апошняя намінацыя “Фотаработа” з’явілася толькі ў гэтым годзе. Канкурсанты павінны былі прыдумаць вобраз для вокладкі і даслаць фотаработу на конкурс.



Фота забяспечана Святланай ПРАДУХАЙ.

У другой намінацыі “Крэатыўны макіяж” Святлана Прадуха паказала вобраз нестандартнай балерыны.

### Палюбі сябе сама – палюбяць і навакольныя

– Гэта вобразы для конкурсу, у звычайным жыцці я не апантана карыстаюся касметыкай, – расказвае Святлана. – Макіяж у мяне стрыманы, таму нічым не адрозніваюся ад маладзечанак, часам магу выйсці ўвогуле без касметыкі. Галоўнае – гэта знешняя і ўнутраная гармонія. Палюбіце сябе самі, вас будуць любіць і навакольныя.

**Візажыст адзначае, што сакрэты прыгажосці вельмі простыя – менш стрэсу, правільнае харчаванне, здаровы лад жыцця.**

– Апошнім часам маладзечанкі амаль беззаганна карыстаюцца касметыкай, падбіраюць яе спецыяльна пад свой тып скуры, – разважае візажыст. – Жанчыны, дзяўчаты сталі больш патрабавальныя і да касметолагаў, візажыстаў. Калі раней яны прыходзілі перад урачыстасцю і цалкам давяралі майстру, цяпер цікавяцца, якой касметыкай ён карыстаецца, якая ў яго кваліфікацыя. Таму візажыст павінны ўвесь час давядвацца пра новыя тэндэнцыі, чытаць спецыяльную літаратуру, каб адпавядаць патрабаванням часу.

Маладым дзяўчатам Святлана параіла менш выкарыстоўваць касметыкі, гэта не заўсёды прыгожа. Ваша натуральная прыгажосць – гэта візітная картка маладосці.

Для тых, хто хоча адпавядаць патрабаванням часу, спецыяліст расказала, што цяпер у модзе. Гэта памады натуральных і вішнёвых адценняў, цені – смокі-айс (дымчатыя вочы з адценнем на ніжнім веку).

**Даведка “РГ”.** Бутафорыя – прадметы, якія выкарыстоўваюць у тэатральных спектаклях узамен сапраўдных рэчаў.



**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

● КРАЯЗНАЎСТВА

# Вандроўка па Свірскім краі: дзе гераізм і слава – сусед варварства і рабаўніцтва

МЯДЗЕЛ

**Сябры Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ наведалі самабытны Свірскі край.**



Краязнаўца з Камарова на Мядзельшчыне Іван Драўніцкі.

У першай вёсцы, Канстанцінаве, на вочы кінуўся адметны дамок з ганкам і калонамі, верагодна, будынак былой школы, які, як і яго "калегі" ў іншых вёсках, дажывае свой век у варварстве і рабаўніцтве. Выбітыя вокны, разламаная падлога, паадбіваная шалёўка і іншыя сляды "гаспадарання" сведчаць пра сумныя перспектывы колішняга "агменю асветы". А вось мясцовы касцёл Маці Боскай зачароўвае сваёй дагледжанасцю і нейкай мілай гармоніяй са сціплымі краявідамі наваколля.

Каля храма – магілы яго ўласнікаў і фундатараў, а таксама пахаванне ксяндза **Люцыяна Хмялёўца** і яго матулі. Гэты святар – гераічная асоба. Ён пачаў служыць у Канстанцінаве ў 1940 годзе ў 26-гадовым узросце. У час вайны малады ксёндз выратаваў ад смерці 16 чалавек – былых дэпутатаў, кіраўнікоў устаноў, работнікаў Свірскага райвыканкама, падпольшчыкаў, яўрэяў, якіх фашысты арыштавалі па даносе. Святар падпісаў з нямецкім камендантам дамову аб сваёй асабістай адказнасці за гэтых людзей, і тых вызвалілі.

Калі акупанты стварылі канцэнтрацыйныя лагеры для жыхароў, якіх збіраліся вывезці ў Германію, Люцыян Хмялёвец выкупіў у ахоўнікаў каля 70 дзяцей і вярнуў іх у сем'і да бацькоў.

У пасляваенныя часы гэты высакародны святар спазнаў жорсткі ўціск і ганенні з боку савецкіх уладаў, у выніку чаго вымушаны быў у пачатку 60-х гадоў выехаць на новае месца службы ў вёску Дзераўная Стаўбцоўскага раёна. Памёр у 2004 годзе, паводле яго жадання пахаваны на цвінтары Канстанцінаўскага касцёла.

На ўскраіне вёскі – вялікія могілкі з брамамі 19 стагоддзя і мноствам старых і новых пахаванняў. Ахоўвае спачын былых жыхароў невялікая капліца.

### Краязнаўца і яго планы

У вёсцы Камарова адразу накіраваліся да хаты вядомага краязнаўца і педагога **Івана Драўніцкага**. Насупраць яго сядзібы – былая польская Куцькаўская школа. Будынак і тэрыторыя наўкола яшчэ захоўваюць прыстойны выгляд, але бачна, што дзікая трава паступова акружае пабудовы. Зразумела, што ў стане такой нерухомай кансервацыі гэты помнік гісторыі доўга не пратрымаецца. Знойдуцца лайдакі, якія павыбіваюць вокны, паламаюць тое, што засталося.

> **Калі ў будынку не размесціцца якая-небудзь установа – ці музей, ці грамадская арганізацыя, то гэту былую школу чакае сумны лёс.**

Іван Драўніцкі, якому ўжо 83 гады, сустрэў нас прыязна і гасцінна. Энергіі і энтузіязму гэтага чалавека можна толькі пазайздросціць. Зусім нядаўна ён выдаў новую кнігу пра свайго аднакласніка па Камайскай школе, вядомага беларускага татарына, географа-энцыклапедыста, аўтара гімна беларускіх татар **Якуба Якубоўскага**. Падзяліўся і сваімі планамі. А іх – мора! Цяпер Іван Драўніцкі працуе над кнігай па гісторыі Пастаўскага педагагічнага вучылішча, якое ў пасляваенны час адыграла вялікую ролю ў падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў для Пастаўшчыны, Мядзельшчыны і суседніх раёнаў.

Пасля смачнай гарбаты, якой нас пачаставала гаспадыня, мы накіраваліся ў былы сядзібна-паркавы комплекс Старжынскіх Камарова, дзе Іван Пятровіч правёў для нас экскурсію.

У адрозненне ад многіх іншых падобных ансамбляў тутэйшыя і парк, і пабудовы прыемна ўразілі сваёй дагледжанасцю і ўладкаванасцю. У гэтым вялікая заслуга мясцовых грамадскіх арганізацый "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю" і фонду падтрымкі прадпрымальніцтва "Камарова".

Офіс фонду знаходзіцца ў еўрапейскага выгляду будынку з сонечнымі батарэямі на даху – былым панскім свінарніку. Непадалёку размешчаная і міні-ГЭС, якая выпрацоўвае ток для асвятлення вулічных ліхтароў.

### У Засвіры ў цішыні і спакоі жыве сваёй адзінотай велічны касцёл

З Камарова накіраваліся ў гарадскі пасёлак Свір. Паводле легенды, гэта даўняе мястэчка заснаваў Нальшчанскі князь Даўмонт, а валодаў ім доўгі час заможны род князёў Свірскіх. Бываў тут са сваім войскам кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторы, калі выпраўляўся адваёўваць у маскавітаў Полацк. У цэнтры былога мястэчка ўзвышаецца Мікалаеўскі касцёл.

Мы ж накіраваліся ў мясцовую школу, у краязнаўчы музей. Увогуле, гістарычныя экспазіцыі нядрэнныя, ёсць шэраг вельмі цікавых экспанатаў, але агульнае афармленне, відавочна, не мянялася з часоў СССР. А вось другі музейчык, невялікі этнаграфічны куточак, спадабаўся больш. Але зноў жа, подпісы прылад працы і вырабы мясцовых майстроў чамусьці падаюцца па-руску. Хіба ж яны так называліся на гэтым культурна-гістарычным беларуска-польска-літоўскім памежжы?

У мясцовай бібліятэцы гаспадыня **Данута Саковіч** пазнаёміла нас з матэрыяламі пра Свір, пра народных майстроў і вядомых людзей Свірскага краю.

Пасля Свіры мы спадзяваліся патрапіць у былы сядзібна-паркавы ансамбль роду Ахраноўскіх у суседняй вёсцы Лушчыкі, але гэта нам не ўдалося. Пільны ахоўнік не дазволіў прайсці на тэрыторыю, спаслаўшыся на тое, што мы можам патрывожыць ідылічнае жыццё тутэйшых жыхароў.

Пасля Лушчыкаў наведалі Болькава, Засвір, Шэметава. Цудоўныя мясціны з выдатнымі помнікамі і маляўнічымі краявідамі! Але… ніводнага чалавека мы ў тых мясцінах не сустрэлі. Не было з кім пагаварыць, распытацца.

У Болькаве паступова зарастае кустоўем закінуты бровар, у Засвіры ў цішыні і спакоі жыве сваёй адзінотай велічны касцёл, каля якога – рэшткі кляштара, капліца, брама, могілкі германскіх салдат Першай сусветнай вайны. У Шэметаве – касцёл Дзевы Марыі, чырвоныя сцены былой сядзібы Скірмунтаў, з якімі жорстка расправіліся бальшавікі і партызаны, ды віднеліся ставы рыбагадавальніка.

По дарозе на Занарач звярнулі ў вёску Карабаны. Завабіла нас туды беларускамоўная шыльда-ўказальнік пра тое, што ў паселішчы знаходзіцца асвечаная крыніца. Сапраўды, натуральны выхад падземных вод, уладкаваны і дагледжаны кімсьці, наталіў нашу смагу чысцінёй і свежасцю.

І міжволі падумалася пра тых людзей, якія чысцілі крыніцы, будавалі сядзібы і хаты, узводзілі храмы, складалі вершы і легенды, спявалі песні… Дзякуй ім, бо без іх працы, без іх творчасці не было б нашага народа і мы б не ведалі, якой павінна быць наша нацыя…

**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**
**Паставы.**

● КАЛЯНДАР

**21 ЛІСТАПАДА**

**105 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Судніка (1910 – 1995), беларускага мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. Скончыў Мінскі педінстытут (1938). Асноўныя напрамкі яго даследаванняў – беларуская лексікалогія і лексікаграфія, арфаграфія, тэрміналогія, анамастыка. Адзін з аўтараў "Руска-беларускага слоўніка", "Беларуска-рускага слоўніка", "Арфаграфічнага слоўніка" (5-е выд.), "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (т. 1-5). Асноўныя працы: аўтар "Слоўніка асабовых уласных імён", "Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы": больш за 65 000 слоў. Старшыня Беларускага, член Міжнароднага камітэтаў славістаў. Аўтар больш за 100 навуковых прац.

**25 ЛІСТАПАДА**

**1910 год.** Нарадзіўся Змітрок Астапенка, беларускі паэт, перакладчык, вязень савецкага канцлагера.

**26 ЛІСТАПАДА**

**90 гадоў** з дня нараджэння Юрыя Семянякі (1925–1990), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі, народнага артыста Беларусі. Быў вядомы ў першую чаргу як паэт-песеннік, пераважна пісаў музыку на вершы Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Адама Русака, Генадзя Бураўкіна, Эдзі Агняцвет, іншых. Папулярнымі сталі такія песні, як "Явар і каліна", "Ты мне вясною прыснілася", "Не за вочы чорныя", "Расцвітай, Беларусь", шмат іншых. Адной з вяршынь у творчасці кампазітара стала опера-паэма "Зорка Венера", створаная па матывах твораў Максіма Багдановіча. Вынікам жа творчасці можна лічыць апошнюю оперу "Новая зямля" па матывах аднайменнай паэмы Якуба Коласа. Значным дасягненнем з'яўляецца і музкамедыя "Паўлінка" па п'есе Янкі Купалы.

**85 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча (1930–1984), беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.

**160 гадоў** з дня смерці Адама Міцкевіча (1798–1855), польскага паэта беларускага паходжання, грамадскага дзеяча, публіцыста.

**80 гадоў** назад (1935) у вёсцы Алькавічы Вілейскага раёна нарадзіўся Кандрат Церах, беларускі дзяржаўны дзеяч, у 1986-1991 гадах – міністр гандлю СССР, узнагароджаны ордэнамі "Знак Пашаны" і Дружбы народаў.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Каб зразумець душу беларуса, трэба пабываць на “Дажынках”

ВІЛЕЙКА

**– Дзе тут у вас “Дажынкі”? – пытаемся ў мінакоў, якія нясуць цяжкія пакеты. З сумак выглядвае кілбаса. У абрысах пакетаў можна пазнаць яблыкі, капусту, сыр.**

У кожнага трэцяга мінака ў руках паветраны шарык, у кожнага другога – нешта смачнае. Ва ўсіх без выключэння на твары ўсмешка.

– Ідзіце прама, нікуды не збочвайце, вы самі ўсё ўбачыце.

І насамрэч: не заўважыць пярэстага натоўпу людзей, не пачуць музыку, не апынуцца ў цэнтры гулянняў – нерэальна. Горад святкуе “Дажынкі”.

– Мы прыехалі ўчора, – кажа кіроўца з Магілёўшчыны. – Расстаўлялі палаткі пад дажджом, але сёння надвор'е спрыяе.

**– Ці падабаецца вам у Вілейцы?**

– А што я тут бачыў? Касцёл, царкву і гасцініцу, дзе начавалі. Ад самага ранку тут.

Хаця мы думаем, што кіроўца нам трохі схлусіў, таму што ад падзей, якія адбываліся на плошчы, можна было разгубіцца.

Там спяваюць народныя ансамблі, тут іграюць на цымбалах і гармоніку. На галоўнай сцэне ідзе канцэрт, з калонак гучыць папулярная музыка.

А якія пахі! Слінкі цякуць ад пахаў шашлыку і бліноў, ад паху мёду і іншых ласункаў.

Прадаўцы і вулічныя мастакі клічуць зазірнуць да іх.

Так. Стоп. Пакуль канчаткова не закруцілася галава, пагутарым з віляйчанамі.

### Сабе накупілі налепак на халадзільнік, а ўнукам – свістулек

Даганяем дзвюх жанчын, якія накіроўваюцца да выхаду з плошчы:

**– Прабачце, бачым, што вы сыходзіце, чаму так рана?**

– Не-е-е, мы не сыходзім, – у адзін голас выкрыкваюць віляйчанкі **Алена і Яўгенія**, – мы пяты раз ходзім тудысюды. Добра, што жывём побач.

Жанчыны прызнаюцца, што на “Дажынках” накуплялі і яблыкаў, і булак:

– А больш за ўсё, дык гэта розных налепак на халадзільнік!

З глабальных перабудоў горада жанчын больш за ўсё ўразіў новы фантан:

– Ды што тут гаварыць, увесь горад вельмі ўпрыкрасіўся! – кажа Яўгенія.

**Мікалай** прыйшоў на свята з унукам **Мікіткам.**

Мужчына дзеліцца ўражаннямі, што гэта ледзьве не першае такое свята на яго памяці ў Вілейцы:

– Апошні раз так гулялі на “Дажынках” у Маладзечне. А тут невядома, калі яшчэ такое свята ў горадзе будзе. Таму і грошай не шкадуем, гуляем.

Мікітку больш за ўсё спадабалася свістулька, якую купіў дзядуля.

А Мікалай разважае пра тое, што горад урадкавалі, упрыгожылі:

– Адзінае, што маглі больш чаго зрабіць, позна пачалі. Жонка гаварыла, што і ноччу асфальт клалі, пражэктары ўключалі.

### Хочаш атрымаць “Ладу” – не спі ўсю ўборачную

Сярод гасцей “Дажынак”, вядома, самыя галоўныя і самыя пачэсныя – гэта пераможцы-камбайнеры.

Ходзяць па свяце, перавязаныя ручніком, быццам сваты на вяселлі.

Паразмаўляць – калі ласка, кожнаму хочацца падзяліцца сваёй радасцю, сваімі дасягненнямі.

Камбайнеры з агракамбіната “Ждановічы” **Віктар Стэльмах і Святаслаў Любезны** – пераможцы ў Мінскім раёне.

Іх унёсак у абласны каравай – 7500 і 4000 тон намалочанага збожжа.

Віктар прызнаецца, што ў 2012 годзе ўжо атрымаў за сваю працу ў падарунак аўтамабіль “Лада”.

А сакрэт поспеху вельмі простыя: быць гатовым да таго, што падчас уборачнай працоўны дзень будзе доўжыцца ад шасці раніцы да дзвюх гадзін ночы.

Тое, што атрымоўваецца добра працаваць, магчыма, у Віктара ў генах – ягоныя бацька і дзед таксама працавалі камбайнерамі.

А для Святаслава вілейскія “Дажынкі” чацвертыя. І ні з адных Святаслаў не з'язджаў з пустымі рукамі. Увесь час знаходзіўся ў пераможцах.

Што падораць сёлета для камбайнераў – сюрпрыз.

### Юшка, аладкі з макам і душэўныя песні

Тое, што іх раён – самы лепшы, маглі сказаць прадстаўнікі 22 раёнаў Мінскай вобласці, чые падворкі былі прадстаўлены на “Дажынках”.

Кожны раён прывёз у Вілейку самае лепшае, чым толькі можа пахваліцца.

З вёскі Красны Беражок, што знаходзіцца ў Старадарожскім раёне, прыкацілі палявую кухню. З яе ўсім ахвотным разліваў юшку повар Краснаберажкоўскага рыбгаса **Часлаў Марцішэўскі:**

– Сакрэт самай смачнай юшкі ў свеце, – расказваў спадар Часлаў, адганяючы ад сябе клубы духмянага дыму, – у тым, каб дадаваць у яе шмат прыпраў: ад перцу да кропу і пятрушкі. Ну і варыцца яе з карпаў, вялікіх і тлустых, такіх, якія водзяцца ў нас у раёне.

А як было можна прайсці міма любанскага падворка? Каля яго іграў і спяваў ансамбль “Суседзі”.

Артысты не чакалі, пакуль збяруцца людзі, каб паслухаць іх. Салістка калектыву **Тамара Піскун** звярталася да чалавека, які спыніўся побач, і пыталася ў яго: “А вам якую песню выканаць?”

Сумную – калі ласка, вясёлую – толькі папрасіце, душэўную – вядома, бо ну ў каго язык павернецца назваць песні гэтага калектыву недушэўнымі?

Пасля імправізаванага канцэрта артысты запрасілі нас пачаставацца квасам.

– І што? – спытаеце вы, – вось дзіва, частавацца халодным квасам, калі на вуліцы + 5.

– А вось і не ўгадалі! – скажам мы вам. Квас палюбанскі – гэта суп, звараны амаль з адных грыбоў на мясным булёне. У такое надвор'е такі квас найсмачнейшы пачастунак.

Не заўважыць вялікага каларытнага мужчыну з вялізнай місай аладак немагчыма нават у такім натоўпе.

Мужчына прытанцоўваючы прыводзіць нас да падворка Клецкага раёна.

**– Што самае смачнае прывезлі з Клецка? – пытаемся ў прадстаўнікоў раёна.**

– А ў нас усё самае смачнае! – адказваюць дзяўчаты ў народных строях. – Вы што, ля нашага падворка і губернатар затрымаўся даўжэй. Яму і кілбасы нашы спадабаліся, і нашы дзяўчаты-артысткі! Ды што мы вам расказваем? Давайце мы і вас пачастуем!

“Дажынкі” гудзелі ў Вілейцы да ночы.

Калі мы пакідалі свята, услед даносілася песня: “Сёння ў нашай хаце свята, калі ласка, у нашу хату! Гэй, радасць спаткаць, Гуляць – дык гуляць”. Такая яна душа беларуская.

Наталля ТУР,
Настасся РОЎДА.
Фота Настассі РОЎДЫ.



Адзін з удзельнікаў абласных “Дажынак”, госць



Ансамбль “Суседзі” Сасноўскага Дома культуры.



Мінакоў частавалі ўсім, што было на сталах у музыкаў.



з Клецка, раздаваў смачныя аладкі з макам направа і налева. І сам паказваў прыклад, як трэба есці.



Работнікі культуры з Клецкага раёна запрашалі пачаставацца прысмакамі.



Часлаў Малішэўскі са Старых Дарог частуе гасцей юшкай.

ФУТБОЛ

# Уладзімір Карыцька: “Галоўнае – сам клуб “Дынама” (Мінск)”

МАЛАДЗЕЧНА

**Выхаванец мясцовай спартыўнай школы Уладзімір Карыцька (трэнер Аляксандр Гармаза) некалькі апошніх сезонаў правёў у складзе камандаў першай расійскай лігі.**

Сёлета яго кар’ера зрабіла ўздым. Вясной 35-гадовы паўабаронца выступаў у прэм’ер-лізе чэмпіянату Расіі за каманду “Арсенал” з Тулы. Летам, калі ўжо споўнілася 36 гадоў, перайшоў у мінскае “Дынама”.

Беларускі чэмпіянат фінішаваў, мінчане выйгралі сярэбраныя медалі. Гучна каманда заявіла пра сябе ў Лізе Еўропы, прайшла тры кваліфікацыйныя раўнды, перамагла балгарскае “Чорна мора”, аўстрыйскі “Зальцбург”, швейцарскі “Цюрых”. Апынуліся дынамаўцы ў групавым турніры еўракубкаў, тут прыйшлося саступаць сапернікам, затое маладыя футбалісты каманды набылі значны досвед. Вялі ж гэтых маладых футбалістаў за сабою іх сталыя партнёры, якія многае пабачылі за сваю гульнявую кар’еру. Прыемна, што адным з такіх лідараў мінскага калектыву стаў наш Уладзімір Карыцька.

Яму ёсць пра што расказаць сваім калегам. Акрамя Беларусі, гуляў у Расіі, Украіне, Славакіі. Пачынаў у 1998 годзе ў родным “Маладзечне”. Найбольш часу правёў у адэскім “Чарнаморцы” і яраслаўскім “Шынніку”. За нацыянальную зборную ў перыяд ад 2002 года да 2010-га згуляў 40 матчаў, забіў тры мячы. Можа дзейнічаць на любой пазіцыі ў паўабароне: і там, дзе трэба шмат атакаваць, і там, дзе трэба нікога не падпускаць да ўласнай штрафной.

**– Сёлета ты гуляў на вачах у беларускіх балельшчыкаў. Некалькі мінулых сезонаў правёў у першай расійскай лізе. У выніку сфарміравалася меркаванне, што ўзровень тваёй гульні стаў лепшы. Ці так на самой справе?**

– Гэта няправільнае меркаванне. Як такое можа быць? Каб у 36 гадоў лепш гуляць? Такое немагчыма.

**– Дзякуй за шчыры адказ. Ты перайшоў у склад мінчан у ліпені. Калі пачаліся перамовы аб гэтым пераходзе?**

– Тады летам усё і закруцілася. Пытанне вырашалася хутка.

**– Наколькі важным быў той факт, што дынамаўцам прадстаяла выступаць у Лізе Еўропы? Наколькі ведаю, у еўракубках раней табе амаль не даводзілася гуляць?**

– Галоўным для мяне быў сам клуб “Дынама” (Мінск), яго імя, яго гучныя традыцыі. Магчымасць удзельнічаць у еўракубках таксама спрыяла пераходу. Выступленні тут у мяне ўжо былі, за славацкі “Ружамбярок”, украінскі “Чарнаморац” і за нашу беларускую “Славію” з Мазыра ў кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў.

**– Апошняе пытанне. Якія планы на наступны 2016 год?**

– Планы звязаны з мінскім “Дынама”. У мяне кантракт да лета.



Сяргей ГАЙКОВІЧ.
E-mail: sm2@tut.by



Фота з сайта adbudi.com

Уладзімір Карыцька ў белай форме.



Фота Наталлі ТУР.

Гульцы каманды “Маладзечна ДЮСШ-4” развітваюцца з фанатамі да наступнага года.

ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Маладзечанцы заканчваюць сезон чацвертымі

МАЛАДЗЕЧНА

**Завяршыўся чарговы сезон у другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе. Каманда “Маладзечна ДЮСШ” заняла чацвертае месца. Гэта ўжо становіцца нейкай традыцыяй, бо такі ж вынік нашы земляки мелі і ў 2010 годзе, і ў 2011-м.**

Перад пачаткам фінальнага раўнда каманда займала другое месца, і мы ўсе спадзяваліся, што яна здолее фінішаваць у прызавой тройцы. Аднак усё аказалася інакш: выхадцы з паўднёва-заходняй папярэдняй падгрупы былі мацнейшыя за прадстаўнікоў з нашай падгрупы. Гэта бачна па той колькасці ачкоў, што яны набралі ў фінальным раўндзе. “Прамень” (Мінск) – 24, “Тарпеда” (Мінск) – 17, “Узда” – 11, “Клецк” – 10.

Асабліва ўражвае рывок “прамяністых” з перадапошняга, сёмага, радка на самы высокі, першы, дзякуючы перамогам ва ўсіх васьмі матчах фінальнага раўнда. Для прыкладу прывядзём колькасць ачкоў, што набралі выхадцы з нашай падгрупы: “Ашмяны” – 11, “Маладзечна ДЮСШ” – 8, “Асіповічы” – 6, “Вікторыя” (Мар’іна Горка) – 4.

Пэўны шанс на тое, каб фінішаваць у прызавой тройцы, наша каманда мела два тыдні таму падчас дамашняга матча супраць уздзенцаў. У сярэдзіне другога тайма лік быў нічыйны, а сапернікі гулялі ў меншасці. Тым не менш, яны забілі гол і выйгралі. Калі б у той сітуацыі перамогі дамагліся маладзечанцы, то выбілі б гэтага саперніка з выніковай тройкі прызёраў.

Нагадаем, што тры лепшыя каманды атрымліваюць права выступіць у першай лізе ў наступным сезоне. Амаль кожны сезон так адбываецца, што які-небудзь клуб спыняе свае выступленні ў чэмпіянаце краіны. Гэта здараецца нават сярод прадстаўнікоў вышэйшай лігі.

Ды і тыя, хто цяпер атрымаў права “падняцца” з другой лігі таксама за зіму многае могуць змяніць у сваіх планах.

Згодна з рэгламентам федэрацыі футбола, вакантнае месца, калі яно ўзнікне, прапануюць той камандзе, якая лёгка пройдзе ўсе працэдуры ліцэнзавання, а ў чэмпіянаце заняла месца, не ніжэй за шостае. Наша “Маладзечна ДЮСШ” са сваім чацвертым радком з’яўляецца так званым “першым запасным” на ўсялякі выпадак.

### “Калі стаўленне ўладаў будзе такое ж, я працаваць не буду”

Галоўны трэнер “Маладзечна ДЮСШ-4” **Аляксандр Гармаза** пасля фінальнай гульні, як заўсёды, эмацыйна выказаўся наконт сітуацыі з маладзечанскім футболам:

– Мы зрабілі ўсё, што ад нас залежала, прафесійна адносіліся да гульняў. І ўлічваючы тое, як да каманды ставіліся ўлады, то нават звыш таго. Што занялі чацвертае месца, канешне, крыўдна, але не да слёз. І калі ў наступным годзе да нас будуць ставіцца гэтак жа, то я працаваць не буду.

**Мікалай Шрымф**, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, на словы Аляксандра Гармазы адказаў, што, апроч футбола, у Маладзечне развіваюцца і таксама патрабуюць фінансавання 33 іншыя віды спорту:

– Я не магу сказаць, каб мы ў нечым блага спрацавалі. У нас трое спартсменаў атрымалі ліцэнзію на ўдзел у Алімпійскіх гульнях у Рыа-дэ-Жанейра. Вынік? Вынік!

Мікалай Уладзіміравіч падкрэсліў, што каляндар маладзечанская футбольная каманда вытрымала, разлік са спартсменамі па харчаванні адбываўся своечасова. Тая запазычанасць, што засталася, будзе выплачаная ў хуткім часе.

У наступны сезон, лічыць Мікалай Шрымф, каманду заявяць абавязкова:

– Мы абмяркуем гэта на сустрэчы з кіраўніцтвам каманды, якая адбудзецца ў пачатку снежня, і з самімі футбалістамі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ, Наталля ТУР.**

## Другая ліга. Выніковая табліца

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Прамень (Мінск) | 14 | 9 | 1 | 4 | 26-14 | 28 |
| Узда | 14 | 7 | 4 | 3 | 25-17 | 25 |
| Тарпеда (Мінск) | 14 | 7 | 4 | 3 | 21-13 | 25 |
| **Маладзечна-ДЮСШ 4** | 14 | 5 | 5 | 4 | 18-15 | 20 |
| **Ашмяны** | 14 | 5 | 4 | 5 | 22-20 | 19 |
| Клецк | 14 | 5 | 2 | 7 | 14-19 | 17 |
| Вікторыя (Мар’іна Горка) | 14 | 4 | 2 | 8 | 13-25 | 14 |
| Асіповічы | 14 | 3 | 0 | 11 | 17-33 | 9 |

# На сайце "Рэгіянальнай газеты" з'явілася новая рубрыка – "Пальчыкі абліжаш"

**Цяпер не трэба браць вялізны даведнік і шукаць, дзе адзначыць юбілей, дзень нараджэння ці проста выпіць кубачак смачнай кавы або з'есці страву італьянскай ці мексіканскай кухні.**



Фота mr-rino.com.

Адказы на гэтыя пытанні ў новай рубрыцы "РГ" – "Пальчыкі абліжаш". Усё, што трэба ведаць пра кафэ і рэстараны, – тут.

Таксама вы можаце прапанаваць, якія месцы хацелі ўбачыць у спісе. Ён будзе абнаўляцца.

Пішыце свае каментары, якія стравы вам спадабаліся ў пэўных месцах, дзяліцеся ўражаннямі, як адзначалі ўрачыстасці. Гаспадарам будзе прыемна пачуць добрыя словы ў свой адрас. Крытыка дапаможа зрабіць месца больш утульным і прывабным для наведнікаў.

Цудоўнага вам адпачынку і, канешне ж, смачна есці!

**Аддзел інфармацыі.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Гастролі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (г.Віцебск)**

**"Залатое сэрцайка"** (інтэрактыўная казка для дзяцей і іх бацькоў), *Святлана Навуменка*
24, 25, 26 лістапада – у 11:00 і 13:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
20 лістапада – у 19:00

**Гастролі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (г.Віцебск)**

"**Пахавайце мяне за плінтусам**" (трагікамедыя ў 2-х дзеях), *Павел Санаеў*
24 лістапада – у 19:00

**"Загадкавыя варыяцыі"** (споведзь аб каханні у адной дзеі), *Эрык-Эмануэль Шмідт*
25 лістапада – у 19:00

"**Каралева прыгажосці з Лінена**" (кухонны трылер у адной дзеі), *Марцін МакДонах*
26 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Цалёвачка**" (музычная казка), *Ю.Шчуцкі*
22 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | | 8 | 5 | | |
| | | | | 7 | | 2 | | |
| | | | 1 | | 6 | | 7 | 8 |
| | | 2 | | | 5 | 6 | 8 | |
| | | | | | | | | |
| | 1 | 8 | 7 | | | 4 | | |
| 5 | 9 | | 2 | | 7 | | | |
| | | 1 | | 6 | | | | |
| | | 6 | 4 | | 9 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, ваенны "**Крэпасць: Шчытом і мячом**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 13:30
22 лістапада – у 14:20
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2015)
22 лістапада – у 12:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Сава. Сэрца воіна**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 11:40
22 лістапада – у 16:10
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
21 лістапада – у 15:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, трылер, прыгоды "**007: Спектр**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2015, пасля 16 год)
20, 22 лістапада – у 23:40
21 лістапада – у 18:00
26 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
20, 22, 23, 24, 25 лістапада – у 18:00
20, 21, 22 лістапада – у 20:50
21 лістапада – у 23:40
23, 24, 25 лістапада – у 21:00
26 лістапада – у 22:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, анімацыя "**Добры дыназаўр**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
26 лістапада – у 17:00
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма, меладрама "**Дасталі**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
20 лістапада – у 21:00
21, 22 лістапада – у 19:30
23 лістапада – у 21:30
24, 25 лістапада – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі "**Пячора**" (Іспанія, 2013, пасля 16 год)
20, 23 лістапада – у 19:00
21, 22, 24, 25 лістапада – у 21:30
26 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**Песня мора**" (Ірландыя, Данія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)



20 лістапада – у 17:00
21 лістапада – у 14:00 і 17:30
22 лістапада – у 13:30 і 17:30
26 лістапада – у 18:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Мутыплікацыйны альманах "**Вясёлыя біяграфіі**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**КінаДзяцінства. Мікраполіс**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 16:00
22 лістапада – у 12:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**Самыя праўдзівыя гісторыі**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 лістапада – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Закладніца 2**" (Францыя, пасля 16 год)
20 лістапада – у 18:10
21 лістапада – у 18:30
22 лістапада – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Серэна**" (ЗША, Францыя, пасля 16 год)
20 лістапада – у 20:00
21 лістапада – у 20:30
22 лістапада – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**КінаДзяцінства. Пра мяне**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 13:00
22 лістапада – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**"
21 лістапада – у 14:00
22 лістапада – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Прыгоды Падынгтона**"
21 лістапада – у 16:30
22 лістапада – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Жахі "**Багровы пік**" (ЗША, пасля 16 год)
20 лістапада – у 18:00
21 лістапада – у 21:00
22 лістапада – у 18:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік "**007: Спектр**" (ЗША, Вялікабрытанія, пасля 16 год)
20 лістапада – у 20:20
21 лістапада – у 18: 20
22 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя 3D "**Сава. Сэрца воіна**"
21 лістапада – у 12:50
22 лістапада – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя 3D "**Перапалох у джунглях**"
21 лістапада – у 14:30
22 лістапада – у 12:50
Цана білета: 15 000 рублёў

Мультфільм "**Крэпасць: Шчытом і мячом**" (Расія)
21 лістапада – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка "**Марсіянін**"
22 лістапада – у 16:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**

● ГАРАСКОП
20-26 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Сітуацыя будзе складвацца не так, як вы жадаеце. Дачакайцеся лепшага часу, і ўсё атрымаецца.

**Цялец**. У вас не будзе невырашальных праблем. Што б вы ні рабілі, вам будзе спадарожнічаць поспех і ўдача. Але ў выхадныя ўдзяліце больш часу адпачынку.

**Блізняты.** Рабіце тое, што вам хочацца. Будзьце актыўныя. Не чакайце, пакуль жыццё кіне вам костку. Вам можа не спадабацца яе смак.

**Рак.** Абвостраца вашы дыпламатычныя здольнасці, зоркі надзеляць мудрасцю, разуменнем і здольнасцю суперажываць. Гэта забяспечыць вам поспех у любых справах.

**Леў.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець.

**Дзева.** Перыяд неблагі, аднак вы чакалі значна большага. У гэтым прычына раздражнёнасці, дрэннага настрою, спрэчак. І вы з гарыччу вывіце, што на работу трэба аддаваць шмат часу, а на забавы – ну, зусім мала, і не наадварот. Што ж, навучыцеся атрымліваць задавальненне і ад работы.

**Шалі.** Каб ваша жыццё склалася найлепшым чынам, ніколі не здавайцеся, не апускайце рукі, працуйце над сваім жыццём, сваім целам, развіццём мовы.

**Скарпіён.** Старайцеся адказна адносіцца да правілаў і законаў. Бо калі раптам узнікнуць рознагалоссі з уладамі, трэба, каб вы былі ў поўным узбраенні. Веды ў гэтай справе – сіла.

**Стралец.** Калі мастак піша карціну, ён павінны адысці на пару крокаў, каб акінуць яе адным поглядам. Так і вам трэба. Магчыма, у карціне вашага жыцця не хапае нейкіх важных штрыхоў.

**Казярог.** Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здорава, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.

**Вадалей.** Дзверы новых магчымасцяў зноў шырока адчыненыя перад вамі. Трэба толькі дачакацца адпаведнага моманту, які, дарэчы, можа здавацца на першы погляд зусім выпадковым.

**Рыбы.** Не забывайце, што шчасце стварэацца кожны дзень шляхам, здавалася б, выпадковых рашэнняў, сустрэч, мімалётных размоў, таго, што робіць наша жыццё напоўненым і змястоўным.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

**Рэгіянальная газета.** Rh.by

## ● НАДВОР'Е

### 21 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +7 / +6 | | +3 / +2 | | -3 / -1 | | -1 / +1 | |
| | 727 | → 4 | 714 | ↓ 10 | 728 | ← 6 | 739 | ↖ 4 |
| Вільня | +7 / +5 | | +2 / +1 | | -3 / +0 | | -2 / -1 | |
| | 736 | → 4 | 728 | ↓ 7 | 737 | ← 4 | 748 | ↑ 1 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.53
Захад 17.04
Даўжыня дня 8.11

Усход 15.11
Захад 2.20
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -20,4 °C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +8,5 °C у 1978 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,1 мм у 1994 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Ці павінны хлопцы служыць у арміі?



**Аляксандр Стурліс, інжынер-энергетык, Смаргонь:**

– Я пайшоў у армію у 26 гадоў. Часам цяжка было наладзіць стасункі з таварышамі па службе, бо некаторыя з іх былі маладзейшыя на восем гадоў. Ад таго часу засталіся розныя ўспаміны: і станоўчыя, і адмоўныя. Аднак варта адслужыць. Армія дае ўпэўненасць у сабе, адказнасць.



**Вольга Асташонак, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**

– На мой погляд, хлопцы павінны служыць у арміі. Яна патрэбная для станаўлення асобы мужчыны. Там няма ні мамы, ні таты, даводзіцца разлічваць толькі на свае сілы. Лепш, каб хлопцаў бралі ў армію да 25 гадоў, бо пазней яны ўжо маюць сем'і.



**Святлана Леановіч, тэхнік-тэхнолаг, Смаргонь:**

– У мяне шмат знаёмых, якіх не ўзялі ў армію па стане здароўя. Яны вельмі перажывалі праз гэта. Тыя, хто раней служыў, не шкадуюць, што былі ў арміі. Яна фарміруе адказнасць, вытрымку. Таму хлопцам варта прайсці праз такую школу жыцця.



**Уладзімір Галаўко, будаўнік, Маладзечна:**

– Павінны, але не ў нашай арміі. Самы час адысці ад савецкага мінулага, правесці рэформы. Нам трэба ўзяць прыклад з ізраільскай арміі.

Падрыхтавала **Галіна СІНІЦА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● Іх прафесія – прадавец у краме рытуальных паслуг. Размаўляем з ім у наступным нумары "РГ".




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1073) 20.11.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1471. Падпісана ў друк у 9.00 12.11.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.